МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№7 (135)
ліпень 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:



З'ЕЗД

## "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПРАВЯЛА ШОСТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Дваццаць гадоў таму, у 1993 годзе, адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, на які ўпершыню пасля доўгіх дзесяцігоддзяў расстання з радзімай прыехалі беларусы з далёкага замежжа. Той з'езд сабраў больш за 1200 дэлегатаў і гасцей. У гэты юбілейны год у Мінску адбыўся Шосты з'езд беларусаў свету, які завяршыў сваю працу 24 ліпеня. Гэты з'езд, як і папярэднія, быў, арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". Усяго было вылучана 330 дэлегатаў з 22 краін замежжа і Беларусі.




Адкрыццё з'езду ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў адбылося 23 ліпеня. Па стане на 10 гадзін раніцы на з'ездзе прысутнічала 239 дэлегатаў і 95 гасцей з 18 краін замежжа і самой Беларусі. На з'езд завіталі таксама прадстаўнікі дыппрадстаўніцтваў Украіны, ЗША, Польшчы і Нідэрландаў, 14 прадстаўнікоў дзяржаўных установаў: Міністр культуры Барыс Святлоў, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў, а таксама прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, апарата ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Міністэрства эканомікі, Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Тэмай з'езду стала "Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці".

Пасля вітання ўдзельнікам з'езду ад імя Згуртавання, з якім выступіла кіраўнік "Бацькаўшчыны" Алена Макоўская, удзельнікаў з'езду прывітаў міністр культуры Барыс Святлоў. З вітальным словам ад Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта выступіў протаіерэй Сергій Гардун, прафесар Мінскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоўя, вітанне ад апостальскага візітатара для грэка-каталікоў Беларусі зачытаў айцец Яўген Усошын.

Вядучыя першага дня з'езду – Радзім Гарэцкі, Валеры Герасімаў, Алег Рудакоў зачыталі вітанні ад прадстаўнікоў суполак і дзеячаў беларускага замежжа, якія напярэдадні з'езду ішлі на адрас Згуртавання.

З асноўнымі дакладамамі выступілі Алена Макоўская, даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка, старшыня гуртка Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Вашынгтоне Алеся Кіпель і сябра абласной Рады Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна

➲

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПРАВЯЛА ШОСТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

*Працяг. Пачатак на с.1*

Чэрскага Алег Рудакоў. Яны акрэслілі асноўныя актуальныя праблемы беларускай дыяспары і шляхі іх вырашэння. У прыватнасці, былі адзначаныя неабходнасць прыняцця Закона аб беларусах замежжа, наладжвання супрацы ўладаў Беларусі з беларусамі замежжа на дэмакратычных умовах, спрыяння папулярызацыі беларускай мовы сярод беларусаў, пошуку спосабаў супраціву асіміляцыі беларусаў, якія выехалі ў замежжа (асабліва ў дачыненні да "новай" эміграцыі), арганізацыі ўзаемадзеяння эміграцыі розных пакаленняў, беларускага школьніцтва і інш. Асноўныя даклады чытайце на сайце zbsb.org.

З'езды беларусаў свету — добрая нагода не толькі абмеркаваць праблемы і поспехі беларускіх суполак, але і прааналізаваць ўласна дзейнасць Згуртавання. А за 4 гады паміж з'ездамі ўдалося зрабіць нямала. Нават паўгадзіны, цягам якіх старшыня Рады Ніна Шыдлоўская рабіла справаздачны даклад, не змаглі змясціць пералік усяго дасягнутага за 2009-2013 гады.

У з'ездзе бралі ўдзел беларусы розных краін, розных пакаленняў і розных поглядаў. Прадстаўнікі чыноўніцтва, бізнесу, дзеячы навукі і культуры выступалі з дакладамі і ўдзельнічалі ў дыскусіях. З'езд даў ім усім магчымасць сустрэцца і агучыць сваё меркаванне па розных тэмах, якія іх хвалююць. Цягам двух дзён удзельнікі з'езду абмяркоўвалі свае праблемы, дзяліліся поспехамі, выказвалі сваё бачанне адносна далейшага развіцця супрацы з беларускім замежжам.

Вельмі востра чарговы раз гучала праблема мовы, праблема нацыянальнай ідэнтычнасці. Нягледзячы на тое, што дэлегаты выказвалі розныя погляды на двухмоўе і на тое, ці можна лічыць беларусам таго, хто не размаўляе па-беларуску, панавала аднадушша, што беларуская мова – аснова нацыі. Па-рознаму ацэньвалі і стаўленне беларускіх дыппрадстаўніцтваў да беларускіх суполак у эміграцыі.

Больш грунтоўнае абмеркаванне праблемаў адбывалася на секцыях "Магчымасці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці", "Новая" і "старая" эміграцыі: супраца на карысць нацыянальнага развіцця" і "Культурная спадчына беларускага замежжа". Выступленне мадэратараў секцый і падагульненне іх працы адбылося на другі дзень з'езду.

Падчас з'езду была арганізаваная і культурная праграма. У гонар 20-годдзя Першага з'езду беларусаў свету дзякуючы сябрам Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" і асабіста яго старшыні Вячкі Целеша, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" арганізавала выставу карцін, якія былі ўпершыню прадстаўленыя ў Беларусі, а таксама выставу фотаздымкаў Першага з'езду беларусаў свету (1993 г.). У фае была размешчаная выстава, падрыхтаваная Наталляй Гардзіенка (Беларусь) і Лявонам Юрэвічам (ЗША) "У літарах і вобразах: спадчына беларускай эміграцыі на захадзе", у якую ўвайшлі прадметы матэрыяльнай культуры, рупліва сабраныя беларускімі цэнтрамі Англіі і ЗША. Выстава экспанавалася ў Беларусі ўпершыню.

Напрыканцы першага дня з'езду ўсіх удзельнікаў чакаў цудоўны канцэрт, у першай частцы якога выступалі беларускія калектывы і салісты з замежжа: іркуцкі гурт аўтэнтычнага спеву "Крывічы", спявачкі Алена Капылова з Новасібірска і Анастасія Трубянкова з Томска, дуэт чэшскіх беларусаў Сяргея Доўгушава і Аляксандра Ясінскага. Таксама ў аўтарскім выкананні прагучалі вершы Іны Снарскай, беларускай паэткі, што жыве ва Украіне. У другой частцы музычнага вечара выступіў малады беларускі калектыў "Сваё неба" і вядомыя гурты "Pawa" і "Палац".

24 ліпеня выступы дэлегатаў і гасцей з'езду працягваліся. Прадстаўнікі беларускіх суполак дзяліліся праблемамі і поспехамі, выказвалі свае думкі і ідэі. Таксама ў межах з'езду прайшла прэзентацыя культурных праектаў, у тым ліку кніг, выдадзеных прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Спецыяльна да 20-годдзя з правядзення з'езду была выдадзеная кніга Ганны Сурмач "Беларусь без межаў". "Беларусь без межаў" – гэта тая беларуская супольнасць, якую мы будуем разам, пашыраючы беларускую прысутнасць на цэлы свет, без увагі на дзяржаўныя межы", – зазначыла ў прывітальным лісце аўтар кнігі.




*Генадзь і Юлія Бураўкіны*

Таксама адбыліся прэзентацыі электроннай бібліятэкі "Камунікат", кнігі Юрася Бушлякова "Жывая мова", музычнага дыска "Пецярбургскі сшытак", што з'яўляецца часткай вялікага праекта пад назвай "Беларускі Пецярбург", ініцыяванага сябрам Вялікай Рады Згуртавання, гісторыкам Міколам Нікалаевым. Андрэй Залатар прадставіў ужо даступную для спампоўвання ў APP STORE першую беларускую азбуку для платформы IOS, створаную камандай грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" і выдавецтва Kinderfox. Агулам было прэзентавана 10 праектаў і кніг, над якімі працавалі беларусы замежжа і якія з пэўнасцю зацікавяць беларусаў як на Радзіме, так і за яе межамі.



*Ніна Шыдлоўская*

Галоўным вынікам працы з'езду стала прыняцце дакументаў, якія тычацца беларусаў незалежна ад месца пражывання. Перш за ўсё, гэта зварот да Нацыянальнага сходу, Урада і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэнні заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы для ўзаемадзеяння з беларусамі замежжа, а таксама праграма "Беларусы замежжа" (2013–2017), якая ставіць мэту захаваць беларускую прысутнасць у свеце ў розных яе праявах, кансалідаваць беларускую нацыю і ўмацаваць грамадзянскую супольнасць у Беларусі.

У прынятым звароце зазначаецца наступнае: "За больш чым 20 гадоў так і не створаная заканадаўчая і нарматыўна-прававая аснова для ўзаемадзеяння са шматмільённай беларускай дыяспарай: 1) не прыняты закон "Аб беларусах замежжа", не распрацаваны і заканадаўча не замацаваны статус "беларус замежжа"; 2) не прынятая дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце"; 3) не створаны ва Урадзе Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны камітэт па справах беларусаў замежжа;

➲

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПРАВЯЛА ШОСТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

*Працяг. Пачатак на сс.1 і 2*

4) не створаная ў парламенце Камісія па справах беларусаў замежжа; 5) не створаны ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі навуковы цэнтр па вывучэнні беларускай дыяспары. Невыкарыстанне найбагацейшага патэнцыялу беларускай дыяспары прыносіць вялікія страты дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь і ўсёй беларускай нацыі. Заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны сход, Урад паскорыць прыняцце закона "Аб беларусах замежжа" і Дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" і ажыццявіць астатнія неабходныя арганізацыйныя захады для захавання і развіцця беларускага замежжа".

На з'ездзе былі прынятыя наступныя рэзалюцыі: "Беларуская мова – галоўны фактар захавання беларускай нацыі", "Аб захаванні гістарычна-культурнай спадчыны", "Аб транслітарацыі найменняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў", а таксама выніковая рэзалюцыя з'езду, якую падаем ніжэй.

Усе дэлегаты з'езду пагадзіліся з рэзалюцыяй аб беларускай мове. "Звяртаемся да ўсіх беларусаў у Рэспубліцы Беларусь і замежжы штодзень актыўна выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці", – гаворыцца ў дакуменце.

У рэзалюцыі "Аб захаванні гістарычна-культурнай спадчыны" зазначаецца: "Каштоўныя аб'екты гістарычна-культурнай спадчыны існуюць і ў замежжы і нароўні з помнікамі ў Беларусі патрабуюць увагі і абароны з боку беларускай дзяржавы".

Рэзалюцыя "Пра транслітарацыю найменняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў" ухваляе замацаванне ў "Інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў у Рэспубліцы Беларусь літарамі лацінскага алфавіта" перадачы геаграфічных назваў з беларускай мовы беларускай лацінкай і заклікае і надалей спрыяць ужыванню беларускай лацінкі як сістэмы транслітарацыі і пашыраць яе.

Акрамя таго, была прынятая заява "Аб акце добрай волі". "Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць з месцаў зняволення людзей, якія знаходзяцца там у знак пакарання за свае палітычныя перакананні", – гаворыцца ў ёй.

Усе прынятыя дакументы размешчаныя на сайце zbsb.org, а таксама дасланыя ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы.

Пасля прыняцця выніковых дакументаў былі праведзеныя выбары кіруючых органаў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Кіраўніком Згуртавання была пераабраная Алена Макоўская, старшынёй Рады – Ніна Шыдлоўская. Яны падзякавалі дэлегатам за аказаны ім давер і падкрэслілі, што займаць кіроўную пасаду ў грамадскай арганізацыі – гэта вялікі гонар, але ў той жа час вялікая праца і адказнасць. Намеснікамі старшыні сталі Валеры Герасімаў і Барыс Стук. Таксама быў




*Валеры Герасімаў*

абраны новы склад Вялікай Рады, якая традыцыйна складаецца з "беларускіх" сяброў аб'яднання і "замежных". Гэтым разам у склад Рады ўвайшлі 50 чалавек ад Беларусі і, адпаведна, такая ж колькасць ад замежжа. Рашэннем з'езду 13 сябраў Вялікай Рады атрымалі статус ганаровага сябра. Інстытут ганаровага сяброўства замацаваны ў статуце "Бацькаўшчыны" спецыяльна для адзначэння тых асобаў, якія на працягу многіх гадоў працуюць на карысць Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Напрыканцы працы з'езду прайшло першае паседжанне новаабранай Вялікай Рады, дзе адбылося ўручэнне ганаровым сябрам памятных медалёў да 20-годдзя Першага з'езду беларусаў свету.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Фота Аляксандра Ждановіча*

# ВЫНІКОВАЯ РЭЗАЛЮЦЫЯ ДЭЛЕГАТАЎ ШОСТАГА З'ЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Шосты раз беларусы свету сабраліся, каб абмеркаваць надзённыя праблемы развіцця сваёй нацыі і дзяржавы. Наша пазіцыя ясна акрэсленая: беларуская дзяржаўнасць мае больш чым 1000-гадовую гісторыю, і гэта дазваляе нам упэўнена сцвярджаць: Беларусь была, ёсць і будзе!

Мы, удзельнікі VI З'езду беларусаў свету, незалежна ад месца пражывання, веравызнання і палітычных поглядаў, падводзячы вынікі абмеркавання выклікаў, што ставіць перад беларускай нацыяй эпоха глабалізацыі, заяўляем:

— Толькі самі беларусы могуць захаваць сваю нацыю, умацаваць і развіць нацыянальную дзяржаву.

— Нацыянальная ідэнтычнасць — апірышча развіцця беларускага народа. Яе ўмацаванне магчымае толькі супольнымі дзеяннямі беларусаў у Беларусі і замежжы.

— Мова — найважнейшая аснова нацыянальнай самабытнасці, галоўны фактар захавання беларускай нацыі і дзяржавы. На жаль, сённяшняя палітыка ўладаў у адносінах да мовы карэннай нацыі вядзе да змяншэння яе ролі ў грамадскім, палітычным і культурным жыцці. Мы рашуча выказваемся за строгае выкананне заканадаўства пра дзяржаўны статус беларускай мовы і прыняцце стратэгічнай праграмы яе развіцця і ўжывання ва ўсіх сферах жыцця.

— Нацыянальная самасвядомасць і нацыянальная памяць наўпрост звязаныя з гістарычнай нацыянальнай сімволікай. Сімвалы беларускага народа — герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг — дадзеныя нам продкамі, і ніхто не мае права забараняць або адмяняць іх. Дэлегаты з'езду выказваюцца за тое, каб бела-чырвона-белы сцяг, як і старажытны герб "Пагоня", быў уключаны ў пералік нацыянальна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

— Адзначаючы значныя дасягненні ў адраджэнні нацыянальна-культурнай спадчыны за гады незалежнасці нашай дзяржавы, звяртаем увагу Урада Рэспублікі Беларусь на неабходнасць уважлівага ставіцца да захавання ўсіх гістарычна-культурных каштоўнасцей роднай зямлі, не дапускаць выключэння іх з Дзяржаўнага спіса пад ціскам інтарэсаў антыбеларускіх сілаў, прадстаўнікоў кампрадорскага чыноўніцтва ці новай буржуазіі.

— Звяртаем увагу кіраўніцтва дзяржавы на неабходнасць у найбліжэйшы час стварыць заканадаўчую і нарматыўна-прававую базу для працы з суайчыннікамі за мяжой, што, несумненна, паспрыяе росквіту беларускай справы на бацькаўшчыне і ва ўсім свеце.

Заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Урад і Нацыянальны сход улічыць гэтыя прапановы.

*Шосты з'езд беларусаў свету*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*23–24 ліпеня 2013 г.*
*г. Мінск*

# ТОЛЬКІ НЕВЯЛІКАЯ ДОЛЯ ЭМІГРАНТАЎ ДАЛУЧАЕЦЦА ДА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ

Напярэдадні Шостага з'езду беларусаў свету пра справы дыяспары "Нашай Ніве" расказалі кіраўніца Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Рады арганізацыі Ніна Шыдлоўская.

**"НН"**: З чым "Бацькаўшчына" падышла да чарговага з'езду?

**Ніна Шыдлоўская**: Шосты з'езд — выдатная магчымасць прааналізаваць гісторыю і сучасны стан беларускага замежжа, акрэсліць перспектывы. За чатыры гады пасля папярэдняга з'езду



зроблена дастаткова. Вельмі каштоўнае тое, што атрымліваецца пашыраць інфармацыйную прастору, якая дапамагае беларусам даведвацца пра жыццё і дзейнасць суполак у розных кутках свету: праз сайт і штомесячны бюлетэнь "Беларусы ў свеце". Быццам, інтэрнэт даступны ўсім, але такой спецыялізаванай камунікацыі, добра наладжанай, няма. І часам людзі здзіўляюцца, што ў іншай краіне віруе беларускае жыццё. Спецыялісты і сябры "Бацькаўшчыны" даследуюць беларускую дыяспару, даследаванні выдаюцца кнігамі. Мы лічым поспехам "Бацькаўшчыны" тое, што ўдалося ініцыяваць і паспяхова каардынаваць дзейнасць грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**Алена Макоўская**: Асноўная прычына, якая нас падштурхнула выступіць ініцыятарамі "Будзьмы", — тое, што беларусы, якія выязджаюць за мяжу, моцна асімілююцца. Невялікі працэнт з іх далучаецца да беларускіх суполак альбо стварае свае. Прычына — у слабай нацыянальнай ідэнтычнасці. Паводле сацыялагічнага апытання, якое мы ладзілі ў 2009, у беларусаў пераважае тэрытарыяльная, грамадзянская ідэнтычнасць. А як толькі тэрыторыя і грамадзянства мяняюцца, то адбываецца і змена ідэнтычнасці.

Вялікае значэнне ў сваёй дзейнасці пасля мінулага з'езду "Бацькаўшчына" надавала працы над законапраектам "Аб беларусах замежжа". Нас запрасілі ў склад працоўнай групы, створанай дзяржаўнымі органамі. Мы пераклалі на беларускую мову заканадаўства шмат якіх краін Еўропы ў сферы працы з іх дыяспарамі. Былі таксама сістэматызаваны прапановы прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Спадзяюся, яны ўлічаны ў тым варыянце законапраекта, які існуе сёння.

**"НН"**: Дзяржава бярэ ўдзел у жыцці беларусаў у свеце?

**АМ**: Кропкавая праца ідзе, але яна не сістэмная.

**НШ**: Сістэмнасць — гэта паслядоўнасць і рэгулярнасць крокаў, якія могуць чакаць з боку дзяржаўных органаў беларусы замежжа. Пасля прыняцця адпаведнага заканадаўства для тых, хто хоча трымаць больш шчыльную повязь з Беларуссю, будзе да чаго апеляваць. У тым ліку самім бачыць, што прапаноўваць. З боку дзяржавы прынцце такога закона пакажа, што беларусы патрэбныя метраполіі, гэта важны палітычны крок.

І не толькі па прынцыпе — інвестуйце ў сваю радзіму альбо дапамагайце нам прадаваць нашу прадукцыю, але і больш іміджавым, скіраваным на перспектыву: гэта фактычна дэманстра-



цыя зацікаўленасці ў тым, каб беларусы заставаліся беларусамі ў краінах свайго пражывання, і гатоўнасці ажыццяўляць практычныя крокі ў гэтым кірунку.

**"НН"**: Ці ёсць за мяжой беларусы, якія гатовыя прапанаваць краіне нешта большае за культурнае супрацоўніцтва?

**АМ**: Канечне. Беларусамі замежжа заснавана нямала фондаў, якія дапамагалі нашай краіне змагацца з наступствамі Чарнобыльскай аварыі, дасылалі гуманітарную дапамогу, абсталяванне, вывозілі тысячы дзяцей на аздараўленне. Спрыяюць многім праектам і цяпер — выданню кніг, набыццю гістарычных рэліквій для музеяў, рэканструкцыі помнікаў, пабудове цэркваў. Яны не заўжды афішуюць сваю дзейнасць. І адным з пунктаў, што мы прапаноўвалі ў дзяржаўную праграму, быў такі: калі замежны бізнесовец беларускага паходжання мае бізнес у Беларусі, да яго можна было б ужываць паменшанае падаткаабкладанне, з умовай, што гэтыя грошы ідуць на падтрымку беларускай суполкі ў замежжы.

*Паводле Сяргея Макарэвіча, "Наша Ніва"*

*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org*

## НАВІНЫ

### Канферэнцыя ў Пецярбургу

Санкт-Пецярбургская асацыяцыя беларусістаў сумесна з Расійскай Нацыянальнай бібліятэкай правялі 18 чэрвеня 2013 г. чарговую штогадовую (21-ю па ліку) канферэнцыю "Санкт-Пецярбург і беларуская культура". Сёлетняе паседжанне было прысвечана памяці прафесара Валянціна Пятровіча Грыцкевіча.

На канферэнцыі прагучалі 17 дакладаў даследчыкаў з РНБ, Расійскага інстытута гісторыі мастацтваў, Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага і кракаўскага Ягелонскага ўніверсітэтаў, іншых навуковых і навучальных устаноў, а таксама адбылася прэзентацыя музычнага праекта Ірыны Базылёвай-Герасімавай "Пецярбургскі сшытак".

*Паводле Міколы Нікалаева*

### Беларускія кнігі цяпер можна купіць і ў Варшаве

Пры варшаўскім "Беларускім Доме" адчынілася "Палічка "Кнігарні логвінаЎ".

Гэта пакуль што толькі адна кніжная шафа, аднак тут ужо цалкам магчыма замаўляць амаль любыя беларускія кнігі: навінкі прозы, паэзіі і эсэістыкі, перакладную і гістарычную літаратуру.

Адрас сядзібы "Беларускага Дома" – Варшава, вуліца Wiejska 13m, 3. Уваход на сядзібу вольны ад панядзелка да пятніцы, з 11-ай да 19-ай. Ласкава запрашаем!

Паліца працуе пры падтрымцы кампаніі "Разам – для Беларусі" і Беларускага Дома ў Варшаве.

*Паводле "Кнігарні логвінаЎ"*

# ЯНКА ЗАПРУДНІК: З ДОБРЫМ НАСТРОЕМ ЛЯГЧЭЙ ЖЫЦЬ

Студыю "Беларускага Радыё Рацыя" наведаў гісторык, журналіст, публіцыст, актывіст беларускай грамады ў ЗША Янка Запруднік. Ён распавёў найперш пра тое, як арганізаванае беларускае жыццё ў Злучаных Штатах. Сам госць жыве ў штаце Нью-Джэрсі.

**РР**: У якіх асяродках перш за ўсё гуртуюцца беларусы за акіянам, ці можна палічыць колькі іх, як яны жывуць?

**Янка Запруднік**: Я паходжу з беларускага асяродка ў штаце Нью-Джэрсі, дзе, я думаю, колькасна тут беларусаў найбольш. Жывем мы недалёка ад горадка Саўт-Рывер, дзе месцяцца беларуская праваслаўная царква імя святой Ефрасінні Полацкай і Беларускі грамадскі цэнтр. Мы з маёй жонкай Надзяй належым да царкоўнага прыходу, спяваем у хоры. У Нью-Джэрсі наогул вялікая грамада беларусаў. Я прыехаў сюды з нававыдадзенай кніжкай пра беларускія фестывалі і выстаўкі ў штаце Нью-Джэрсі ў перыядзе паміж 1948 і 2010 гадамі. Кніжка на дзвюх мовах, там шмат здымкаў, ілюстрацыяў і апісанне нашага жыцця і дзейнасці. Кніжка мае падзагаловак "Палітычная інфармацыя моваю мастацтва". Гаворка пра тое, што калі мы прыехалі ў Амерыку (мы – гэта значыць беларуская пасляваенная эміграцыя), мовы ангельскай не ведалі, але ведалі, як спяваць беларускія песні. Прывезлі з сабою розныя артэфакты: народнае мастацтва, вопратку, малюнкі і гэтак далей, праводзілі фестывалі і выставы, а пры гэтай нагодзе сустракаліся з палітыкамі і гаварылі ім, чаго мы хочам.

Наогул беларусы ў ЗША раскіданыя па розных штатах, найбольш іх менавіта ў штаце Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк, Ілінойс, дзе горад Чыкага, у Агаё, там, дзе горад Клійленд, у Каліфорніі і іншых.

**РР**: Вітаўт Кіпель у сваёй кнізе налічыў сотні тысяч беларусаў паводле паходжання, але так здарылася, што яны неяк расплываліся сярод мацнейшых суседзяў.

Фактычна найбольш устойлівыя інстытуты стварыла пасля вайны вашае пакаленне ці крыху старэйшыя за вас, але ўжо пасляваенная эміграцыя.

**ЯЗ**: У Амерыцы, якую называюць катлом пераваркі розных нацыянальнасцяў, гэтае пераварванне ў амерыканскую нацыю аблягчаецца ў вялікай ступені тым, што ты можаш захоўваць сваю самабытнасць. Мы туды прыехалі пасля вайны з DP лагераў (лагеры для тых перасяленцаў з Усходняй Еўропы якія не маглі вярнуцца да сябе на Бацькаўшчыну, якія былі фактычна без грамадзянства). У лагерах у заходняй Нямеччыне жылі кампактна. Вайна скончылася ў 1945 годзе, а эміграцыя з еўрапейскіх краінаў пачалася недзе пад канец 40-х гадоў. У гэты час інерцыя нацыянальнага этнічнага існавання прывяла да арганізацыі сваіх хораў, тэатральных гурткоў і гэтак далей, і ўсё гэта перабралася ў вялікай меры ў Амерыку і там былі магчымасці захоўвання сваіх традыцыяў. Мы прыехалі туды з запасам культурнага патэнцыялу, і гэты культурны патэнцыял існуе і да сённяшняга часу. У вялікай меры дапамагае рэлігія, большасць беларускіх эмігрантаў у Амерыцы – гэта былі праваслаўныя, якія заснавалі цэрквы, свае арганізацыі, у тым ліку выдавецкія, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, які існуе і да сённяшняга дня. Выдаем кніжкі, зборнікі навуковых артыкулаў. Безумоўна, маладое пакаленне асімілюецца, гэта з'ява, з якой змагацца немагчыма. Што б мы ні рабілі, маладое пакаленне вырастае ў новых абставінах. Тым не менш рэлігія аказалася вельмі важнай для захоўвання культурнай самасвядомасці. Да сённяшняга дня амерыканцы беларускага паходжання ўсведамляюць місію дзядоў і бацькоў і пераймаюць пэўныя палітычныя, культурныя функцыі, каб працягваць гэтую справу.



*Янка Запруднік*

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя".*
*Гутарыў Мікола Ваўранюк*
*Цалкам гутарку чытайце на zbsb.org*

НАВІНЫ

# СТВОРАНЫ "КЛУБ БЕЛАРУСАЎ СМАЛЕНСКАГА КРАЮ"

Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2010 года, у Смаленскай вобласці пражываюць больш як 12 тысяч беларусаў. Прадстаўнікоў Беларусі можна сустрэць на высокіх пасадах адміністрацыі Смаленскай вобласці, сярод кіраўнікоў раённых, гарадскіх, пасялковых утварэнняў, яны паспяхова спраўляюцца з кіраваннем буйнымі арганізацыямі і малымі фірмамі – працуюць на карысць Расіі і росквіту Смаленшчыны.

У год 1150-годдзя Смаленска, 5 ліпеня 2013 года, па-сяброўску сабраліся беларусы: Чахуноў М.У. – начальнік ГУЦБРФ па Смаленскай вобласці, Сакалоў І.А., Роўбель Р.Л., Янгіраў І.І. – з адміністрацыі вобласці, Дарасевін А.Я. – акадэмік РАМН, Сцяпанаў В.У. – дырэктар ТАА "Приорстрой", Казленя В.І. – дарадца старшыні савета дырэктараў ААТ "Смаленскі Банк", Кандыба А.Ф. – прэзідэнт "Маскоўскага клуба беларусаў", віцэ-прэзідэнт ААТ "Смаленскі Банк". На сходзе было прынятае рашэнне аб стварэнні грамадскадзелавой арганізацыі "Клуб беларусаў Смаленскага краю". Старшынёй абралі Сакалова Ігара Анатольевіча.

Выхадцы з Беларусі згуртаваліся, каб дапамагаць кіраўніцтву Смаленшчыны ўмацоўваць міжнацыянальны мір, садзейнічаць інтэграцыйным працэсам саюзнага будаўніцтва, прапагандаваць гісторыю, культуру, дасягненні братніх народаў і дзяржаў.

У арганізацыі прадугледжаны такі ўдзел: сябры, ганаровыя сябры, ганаровыя госці, госці, калектыўныя сябры, беларускі зяць і беларуская нявестка. Уступіць у арганізацыю могуць выхадцы з Беларусі, якія нарадзіліся, служылі, працавалі, жылі ў рэспубліцы і якія маюць беларускія карані.

У жніўні – верасні 2013 года плануецца правесці святочную канферэнцыю, на якой канчаткова завершацца ўсе арганізацыйныя пытанні.

*Паводле Алега Кандыбы*

# Радзім Гарэцкі: "Мы робім унёсак у тое, каб беларусы не загінулі як нацыя"

Акадэмік Радзім Гарэцкі восем гадоў быў прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Было гэта ў тыя часы, калі слова "прэзідэнт" ужывалася не толькі ў дачыненні да адной асобы ў краіне. Абралі Радзіма Гаўрылавіча на гэтую пачэсную пасаду на Першым з'ездзе беларусаў свету, які адбыўся ў Мінску роўна 20 гадоў таму. Прапануем вашай увазе гутарку Мікалая Дубавіцкага з Радзімам Гаўрылавічам.

**МД**: Вы заступілі на пасаду прэзідэнта "Бацькаўшчыны" замест Быкава. Ці атрымалі наказ ад Васіля Уладзіміравіча?

**РГ**: Калі яшчэ на пачатку дзейнасці "Бацькаўшчыны" быў устаноўчы з'езд і мы папрасілі Быкава ўзначаліць арганізацыю, ён не вельмі хацеў, бо меў і так шмат розных пасад. Ён сказаў тады: "Мне цяжкавата, але гэта такая важная справа, што я даю згоду, толькі ненадоўга". Ужо ў час падрыхтоўкі першага з'езду ён падышоў да мяне і сказаў, што хоча прапанаваць маю кандыдатуру на прэзідэнта. Сказаў: вы надзейны чалавек, які можа гэтую справу па-сапраўднаму пацягнуць. Тут, кажа, трэба быць адданым Бацькаўшчыне, быць шчырым і ўмець працаваць з рознымі людзьмі. Задача сапраўды стаяла важная — аб'яднаць розных людзей, розных паводле сваёй дзейнасці, поглядаў, веравызнанні. Але тых, хто любіць Беларусь і хоча яе росквіту. Васіль Уладзіміравіч пажадаў перадаць мне гэтую пасаду і сказаў, што заўжды гатовы дапамагчы і будзе разам з намі.

**МД**: Як у грамадстве ўспрынялі навіну пра правядзенне Першага з'езду беларусаў свету? Ці лічылі яго простыя людзі важнай падзеяй?

**РГ**: Думаю, што гэта была падзея. Перад гэтым з'ездам быў устаноўчы з'езд у 1990 годзе, калі дзякуючы ініцыятыве Яўгена Лецкі і яго аднадумцаў была заснаваная "Бацькаўшчына". Пасля мы правялі з'езд беларусаў блізкага замежжа ў 1992 годзе. Усе гэтыя ранейшыя падзеі таксама шырока асвятляліся ў прэсе, прычым у дзяржаўнай. Людзі пра гэта ведалі, і падтрымка адчувалася з усіх бакоў. На хвалі адраджэння на постсавецкай прасторы вельмі хутка пачалі з'яўляцца беларускія суполкі. Ва Украіне, у Казахстане, у Расіі, асабліва ў Маскве, Новасібірску, Пецярбургу беларусы адчулі сябе беларусамі. І тут само па сабе прыйшло разуменне, што трэба згуртаваць не толькі беларусаў у метраполіі, але і наогул па ўсім свеце.




*Радзім Гарэцкі*

**МД**: Які ваш самы яркі ўспамін з таго з'езду?

**РГ**: Здзіўлялі і радавалі беларусы, якія прыязджалі праз даўгі перапынак. Столькі было эмоцый! Некаторыя кідаліся на калені, каб зямлю сваю родную пацалаваць. Пачуцці былі супярэчлівыя, нехта баяўся, што па прыездзе іх могуць забраць у КДБ ды пасадзіць. А колькі выдатных людзей прыехала — Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Язэп Сажыч, тагачасны старшыня Рады БНР… У размове з Кіпелем высветлілася, што нашы бацькі працавалі разам у Інбелкульце, і я, і ён сталі геолагамі, а потым пачалі займацца агульнымі грамадскімі справамі.

**МД**: Якое было канкрэтнае значэнне першага з'езду?

**РГ**: Пасля з'езду шмат хто адчуў, што быць беларусам — гэта вялікі гонар. Папершае, з'езд засведчыў, што беларусы могуць аб'яднацца і маюць вялікую цягу да нацыянальнага адраджэння. Быў прыняты зварот у падтрымку беларускай мовы. Прынялі пастанову аб неабходнасці распрацаваць праграму, датычную беларусаў замежжа, каб яны актыўна ўдзельнічалі ў адбудове нашай дзяржавы. На жаль, вельмі хутка змянілася ўсё на супрацьлеглае, ужо з 1994 года, калі наша краіна стала прэзідэнцкай. А праз год адраджэнскі рух быў, па сутнасці, перакрэслены.

**МД**: Але Першы з'езд беларусаў свету не стаў апошнім. Што вам дае надзею на лепшае?

**РГ**: Ужо Другі і наступныя з'езды арганізоўваць было вельмі складана. Але "Бацькаўшчына" працягвае аб'ядноўваць і трымаць разам сапраўдных беларусаў з усяго свету. І робіцца гэта на глебе, можа, не столькі палітычнай, колькі культурна-асветніцкай. І мы ўсе робім значны ўнёсак у тое, каб беларусы не загінулі як нацыя.

*Паводле budzma.org*
*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org*

## НАВІНЫ

### Беларусь пашырае кантакты з суайчыннікамі за мяжой

Беларусь пастаянна пашырае кантакты з суайчыннікамі за мяжой. Пра гэта 2 ліпеня заявіў упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка ў час сустрэчы ў Мінску з удзельнікамі новасібірскага ансамбля народнай песні "Свята". "За мяжой пражываюць да 3,5 млн. беларусаў. Мы падтрымліваем сувязі з прадстаўнікамі беларускіх дыяспар блізкага замежжа і ў некаторых пытаннях аказваем садзейнічанне. У апошні час усталяваны кантакт з беларусамі з Аўстрыі, Бельгіі, Аргенціны", – распавёў Леанід Гуляка. Ён прэзентаваў ансамблю "Свята" сем беларускіх нацыянальных касцюмаў і перадаў дыплом праекта "Адміністрацыйны рэгіён Беларусі – арганізацыя суайчыннікаў за мяжой" і ліст падзякі за папулярызацыю беларускай песні ў Расіі Беларускаму культурна-асветніцкаму цэнтру імя Еўфрасінні Полацкай горада Новасібірска.

*Паводле БЕЛТА*

### Курсы беларускай мовы цяпер і ў Токіа

Нефармальныя заняткі беларускай мовы "Мова ці кава" сабралі сотні слухачоў у Маскве і Мінску. А цяпер беларуская мова завітала і ў японскую сталіцу! Арганізатарка заняткаў "Беларускай гутарні" Таццяна Цагельнік атрымлівае ступень магістра на японіістыцы.

Ідэя зладзіць заняткі з'явілася даўно, але па-сапраўднаму натхніў яе поспех "Мовы ці кавы":

"Я хацела, каб нашыя заняткі былі таксама месцам сустрэчы для беларусаў у Японіі. Паводле афіцыйных звестак, нас тут толькі некалькі соцень чалавек, і ніхто асабліва кантактаў не падтрымлівае. Удзельнікі ж курсаў – збольшага японцы, якія ўжо ведаюць рускую мову або польскую", – распавядае Таццяна.

Калі ж год, які Таццяна правучыцца ў Токіа, скончыцца, дзяўчына спадзяецца, што ейную ініцыятыву працягне Сіёры Кіясава – дзяўчына, што праславілася на мінскіх курсах "Мовы ці кавы" тым, што вывучыла беларускую мову за 11 месяцаў.

*Паводле "Белсата"*

# БЕЛАРУСАЎ ПРЫЗНАЛІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МЕНШАСЦЮ Ў ЧЭШСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ

Распачынаючы кампанію па прызнанні беларусаў у якасці нацыянальнай меншасці ў Чэхіі ў 2010 годзе, мы мелі на мэце выключна дасягненне гэткага выніку. Ініцыятары прызнання належаць да суполкі "Пагоня" (Прага). Іх было пяцёра – мастак Адась Калюта, прадпрымальнік Віталь Цімошчанка, а таксама частка рэдакцыі часопіса "Belarusian Review" у складзе яго галоўнага рэдактара Юркі Станкевіча, рэдактара сайта часопіса і юрыста Кірыла Касцяна, а таксама намесніцы рэдактара часопіса і спецыяліста ў міжнародных стасунках Ганны Васілевіч.

Мы вырашылі прааналізаваць заканадаўства Чэхіі датычна патрабаванняў да прызнання нацыянальных меншасцяў, каб ацаніць рэальныя перспектывы прызнання беларусаў у якасці меншасці і акрэсліць стратэгію нашых дзеянняў. Прафесарка, доктар Мілада Палішэнска, якая ведае беларускую праблематыку як у кантэксце камуністычных рэпрэсіяў у Чэхаславаччыне, так і ў шырэйшай перспектыве, пагадзілася даць экспертнае меркаванне дзеля ацэнкі гістарычнай прысутнасці беларусаў на землях сучаснай Чэхіі.

Асноўным юрыдычным дакументам стаў адпаведны Мемарандум з просьбай прызнаць беларусаў як нацыянальную меншасць. Гэты Мемарандум быў дасланы Прэзідэнту Чэхіі Вацлаву Клаўсу, прэм'ер-міністру – Пятру Нэчасу, а таксама старшыням абедзвюх палатаў парламента Чэхіі – Пшэмыславу Саботку і Міраславе Немцавай. Адказы ад Прэзідэнта і кіраўнікоў парламента хоць і адсылалі да Урада, але былі прыхільнымі. Урад Чэшскай Рэспублікі таксама прыязна паставіўся да нашага Мемарандуму і адгэтуль нас пачалі рэгулярна запрашаць на паседжанні Рады ўрада Чэшскай рэспублікі ў справах нацыянальных меншасцяў. Чэшскія ўлады звязвалі прызнанне з апошнім агульнанацыянальным перапісам насельніцтва 2011 года, вынікі якога паказалі, што ў Чэхіі пражывае больш за 2 тысячы этнічных беларусаў.

Пасля выканання ўсіх фармальнасцяў чэшскі ўрад прыняў рашэнне аб пашырэнні складу Рады ўрада Чэшскай Рэспублікі ў справах нацыянальных меншасцяў, уключыўшы ў яе ад беларусаў Адася Калюту, прадстаўніка суполкі "Пагоня".

Актыўна займаючыся справамі прызнання і шырэйшай грамадска-культурніцкай дзейнасцю ў Чэхіі, суполка "Пагоня" зрабілася каардынацыйным цэнтрам беларускай супольнасці ў Празе, чаму спрыяе наяўнасць новага памяшкання беларускага клуба, з'яўленню якога паспрыялі Віталь Цімошчанка і Андрэй Гайко. Новы клуб быў урачыста адкрыты сёлета падчас святкавання Дня Волі з удзелам Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы і іншых ганаровых гасцей. Тут рэгулярна адбываюцца беларускія імпрэзы і месціцца беларуская бібліятэка, якая ўвесь час папаўняецца дзякуючы нашым сябрам і партнёрам як з Беларусі, так і з іншых краінаў.

Ад імя суполкі "Пагоня" мы хочам падзякаваць усім тым, хто спрычыніўся да гэтай гістарычнай падзеі: Міладзе Палішэнскай, Вацлаву Шмейкалу, Яну Рыхліку, Івонцы Сурвілле, Сяргею Навумчыку і ўсёй Радзе БНР, а таксама ўсім іншым, хто быў побач і рознымі спосабамі дапамагаў. Мы высока цэнім гэтую падтрымку і верым, што дасягнутае прызнанне паспрыяе не толькі паўнейшай інтэграцыі беларускай супольнасці ў чэшскае грамадства, але і спрычыніцца да лепшых магчымасцяў у развіцці беларускай культуры і мовы ў Чэхіі, а таксама зацікаўленасці ў штораз шчыльнейшай супрацы паміж грамадствамі нашых дзвюх краінаў.

*Паводле Рады суполкі "Пагоня"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШУЕМ НОВЫХ ГАНАРОВЫХ СЯБРАЎ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"!

24 ліпеня 2013 года на Шостым з'ездзе беларусаў свету статус ганаровых сяброў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" быў нададзены **Рыгору Барадуліну** (Беларусь), **Яўгену Вапу** (Польшча), **Анатолю Вярцінскаму** (Беларусь), **Валерыю Герасімаву** (Беларусь), **Вользе Іпатавай** (Беларусь), **Георгію Казаку** (Расія), **Аляксею Каралю** (Беларусь), **Арсену Лісу** (Беларусь), **Алегу Рудакову** (Расія), **Лідзіі Савік** (Беларусь), **Барысу Стуку** (Беларусь), **Ганне Сурмач** (ЗША) і **Таццяне Казак** (Латвія).

Ад усёй душы віншуем нашых новых ганаровых сяброў і дзякуем за шматгадовую плённую супрацу, якая, верым, працягнецца і надалей. Шчыра зычым вам, шаноўныя сябры, моцы духу і выдатнага здароўя, натхнення ў жыцці і ў працы і заўсёднай радасці ў сэрцы!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў жніўні: **Генадзя Бураўкіна, Насту Дашкевіч, Адама Мальдзіса, Марыю Міцкевіч, Валерыя Санько, Алега Трусава** (Беларусь), **Аляксандра Надсана** (Англія), **Дзмітрыя Ярашэўскага** (Германія), **Янку Запрудніка** (ЗША), **Юрыя Статкевіча** (Малдова), **Яраслава Іванюка** (Польшча), **Віктара Чайчыца** (Расія).

Зычым радасці і добрых навінаў, выдатнага здароўя і святла на душы!

**25 жніўня** юбілей у сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" **Уладзіміра Арлова**. Шчыра віншуем юбіляра і зычым выдатнага здароўя, натхнення і плёну ў працы, а таксама радасці і святла!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ЯРАСЛАЎ СТАНКЕВІЧ (1929 - 2013)


Courtesy Photo

Грамадскі дзеяч, вучань Віленскай беларускай гімназіі і настаўнік Віленскай беларускай школы (ужо ў нашы дні), памёр 26 ліпеня 2013 года на 84-м годзе жыцця.

Сын славутага віленскага беларускага кнігара Станіслава Станкевіча Яраслаў быў адным з сімвалаў беларускай грамады ў Літве.

Распавядае дырэктарка Віленскага беларускага музея Івана Луцкевіча Людвіка Кардзіс:

"Сям'я доўгі час жыла ў цяжкім стане, калі бацька быў у сталінскіх лагерах. Але чым яны для нас адметныя і служаць прыкладам, дык гэта тым, што людзі захавалі праз усё жыццё беларускую мову.

Яраслаў Станкевіч вучыўся ў беларускай гімназіі, але не скончыў яе, бо яна была зачыненая саветамі. І пасля, канечне, ён як беларус не мог у Вільні рэалізавацца, бо не было ў той час тут ніякіх беларускіх устаноў. Ён працаваў у польскай школе, выкладаў хімію. Пасля ўжо, калі адкрылася беларуская сярэдняя школа імя Францішка Скарыны (цяпер гімназія), ён перайшоў туды выкладаць хімію".

Ягоныя вучні былі ў захапленні ад свайго настаўніка. Прыгадвае адна з іх, цяпер мастачка Паўліна Вітушчанка:

"Яго манеры былі такія прыемныя. За ім заўсёды проста прыемна было назіраць і радасна бачыць на нейкіх беларускіх імпрэзах.

Проста браў гонар за беларускіх віленчукоў, якія, пражыўшы ўсё жыццё ў Літве, захавалі і беларускую мову, і беларускія каштоўнасці, і беларускую самаідэнтыфікацыю. І, можа, нам цяперашнім гэтага не хапае. У яго можна было гэтаму вучыцца".

Родная мова, нацыянальныя традыцыі, шляхетнасць паводзін — усё тое, што перадаецца ў беларускім родзе Станкевічаў з пакалення ў пакаленне. Гаворыць пляменніца спадара Яраслава, кіраўніца турыстычнай фірмы, якая працуе з беларусамі, Ангеліна Якшчене:

"Дзядзька Яраш — гэта той чалавек, каго я помню з самых малых гадоў сваіх.

У яго два сыны, і я, па-першае, вельмі ўдзячная сваім бацькам і яму, што, хоць я не маю родных братоў, усё ж такі мы з імі маем адзін аднаго. Гэта вельмі важна для жыцця, бо гэта адчуваеш нават сёння, што ёсць ягоныя людзі, каторыя для мяне таксама свае. Я ўдзячная сваім бацькам і дзядзьку Яру, што яны гэта змаглі зрабіць. Па-другое, сапраўды, гэтая беларускасць, якая прыйшла з імі. Я яе адчувала паміж мамай і братам ейным. Не бачачы гэтага, я хіба не змагла б так успрыняць гэтую беларускасць, каторая праходзіла праз гады ў іх сям'і. Гэта таксама не словы, гэта тое жыццё, якое я бачыла і якое не магло не мець уплыву на мяне. Ужо ў Алесю, маім сыну, гэта працягваецца. Ён нарадзіўся ў Літве, але ён размаўляе па-беларуску. Гэта ўжо наша трэцяе пакаленне, якое жыве ў Літве і застаецца беларускім. І я вельмі ўдзячная маме і дзядзьку Яру, што яны гэта маглі зрабіць".

Яраслава Станкевіча пахавалі 31 ліпеня ў Вільні на могілках Карвелішкі. У яго засталіся сыны Алік і Слава, унук Уладзік і праўнук Эрык.

*Паводле "Радыё Свабода"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе з нагоды смерці шаноўнага Яраслава Станкевіча і прыносіць шчырыя спачуванні ўсім, хто яго ведаў.***

***Светлая памяць і вечны супакой яго душы!***

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2013 ГОДА

1 жніўня – 70 гадоў таму, у 1943-м, ва ўрочышчы Батароўка каля Навагрудка гітлераўцы расстралялі 11 сясцёр-назарэцянак. 6 сакавіка 2000 г. яны былі беатыфікаваныя.

4 жніўня – 40 гадоў таму памёр Міхаіл Урбановіч (1890–1973), культурны дзеяч, педагог, каталіцкі святар. Пахаваны на могілках Св. Казіміра ў Чыкага (ЗША).

12 жніўня – 120 гадоў таму нарадзіўся Аляксандр Ружанцоў (Вязьма, цяпер Смаленская вобл., Расія; 1893–1966), грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

12 жніўня – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Чэхаславакіі савецкія карныя органы арыштавалі Янку і Ларысу Геніюшаў, якія пазней былі засуджаныя.

14 жніўня – 55 гадоў таму памёр Эдзюк (Эдвард) Будзька (1882–1958), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Пахаваны на могілках Св. Войцаха ў Чыкага (Ілінойс, ЗША).

15 жніўня – 25 гадоў таму ў Лембарку (Польшча) памёр Мікалай Дварэцкі (1903–1988), грамадскі дзеяч, паэт, эмігрант (жыў у Польшчы).

16 жніўня – 110 гадоў таму нарадзіўся Мікола Абрамчык (в. Сычавічы, цяпер Маладзечанскі р-н; 1903–1970), грамадска-палітычны дзеяч эміграцыі ў Чэхіі, Францыі і Нямеччыне, прэзідэнт БНР (1947–1970).

17 жніўня – 10 гадоў таму, у 2003-м, памёр Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваны на беларускай частцы могілак Фолкнер у Мельбурне (Аўстралія).

19 жніўня – 120 гадоў таму нарадзіўся Баляслаў Слосканс (1893–1981), рэлігійна-грамадскі дзеяч беларускага замежжа, Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў, вязень савецкіх канцлагераў.

20 жніўня – 75 гадоў таму расстраляны Уладзімір Пракулевіч (1887–1938), палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання. Нарадзіўся ў в. Красналукі, цяпер Чашніцкі р-н.

24 жніўня – 95 гадоў таму, у 1918-м, у Вільні створана культурна-асветная арганізацыя "Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага народа" (дзейнічала ў 1918–1919 гг.).

25 жніўня – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Стакгольме на сходзе беларусаў створана Беларуская Грамада ў Скандынавіі.

26 жніўня – 80 гадоў таму, у 1933-м, выйшла пастанова Савета Народных Камісараў БССР "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу", скіраваная на знішчэнне адметнасці беларускай мовы.

**Беларусы ў свеце**
№7(135), ліпень 2013
Падпісана ў друк 06.08.2013
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27